# КРЫВІНКА

САКАВІК
№4 (230)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ХОЧАЦЕ ПАПЛАВАЦЬ У БАСЕЙНЕ? ЕДЗЬЦЕ Ў ШУМІЛІНА!

**Два з паловай гады таму, 13-га верасня 2016 года ў Шуміліне ва ўрачыстай абстаноўцы быў адкрыты фізкультурна-аздараўленчы комплекс, у склад якога ўваходзіць басейн. Пра тое, што сюды ўсё больш едуць плаваць жыхары Бешанковіцкага раёна, напрыканцы лютага напісала рэспубліканская газета «Звязда».**

"З першага дня людзі літаральна займалі чэргі, каб запісацца на плаванне.Асабліваахвотнанаведваюць басейн дзеці. Удзельнічаюць паміж сабой у спаборніцтвах. Між іншым, усё больш ахвотных паплаваць не толькі з Шумілінскага раёна, але і з суседняга – Бешанковіцкага. Сюды прыязджаюць сем'ямі.

Летась ва ўстанове пачала працаваць саўна. Расцэнкі вельмі прывабныя: за гадзіну для чатырох наведвальнікаў трэба заплаціць 20 рублёў. Пры гэтым у Віцебску з-за дарагоўлі ўсё меней тых, хто наведвае проста лазні...

У ФАК карыстаюцца добрым попытам трэнажорная зала, секцыі, гурткі, у якіх жанчыны могуць падкарэктаваць фігуру. Такім чынам, паслугі для здароўя не горшыя, чым у абласным цэнтры."

25-га верасня 2017 года Шумілінскі раён з рабочым візітам наведаў міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко. Як па гарачых слядах напісала шумілінская раённая газета, ён высока ацаніў работу, што праводзіцца ў Шумілінскім раёне па прапагандзе спорту, стварэнні ўмоў для заняткаў фізічнай культурай для дзяцей і дарослых..Падтрымлівацьутонусесваё цела, наведваць спартзалу, аддаваць дзяцей у секцыі ў Шумілінскім раёне становіцца ўсё больш прэстыжна. У так званую "лінію спорту" ў Шуміліне ўваходзяць СДЮШАР, гарадскі стадыён, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр, а таксама спартыўная зала пры ФАЦ.

Шумілінскі фізкультурна-аздараўленчы цэнтр запрашае наведнікаў:
па буднях – з 9.00 да 21.00,
па выхадных – з 9.00 да 18.00.

Кошт аднаго занятка для дарослых складае ад 1,79 да 3.26 руб., для дзяцей – ад 1.45 да 1.63 руб. Дзеці да 5 год басейн наведваюць бясплатна.

Падрабязную інфармацыю пра работу цэнтра, групы, расклад заняткаў і кошт паслуг можна даведацца па тэл. 5-06-15.

"У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры створаны ўсе ўмовы для аматараў актыўнага адпачынку, – расказаў дырэктар ФАЦ Юрый Мясаедаў. – Заняткі па душы знойдуць як дарослыя, так і дзеці".

**Г.Станкевіч**



ЧАЛАВЕК ГОДА

## ДЫРЭКТАРКА РАЁННАГА ДОМА РАМЁСТВАЎ

**Лаўрэатка пачэснага звання «Чалавек года Віцебшчыны» Алеся Аўчыннікава — цудоўная жанчына, неверагодна таленавітая і працавітая. Ейная прафесійная дзейнасць супадае з хобі, што і з'яўляецца адным з асноўных складнікаў поспеху і святочнага настрою на рабочым месцы.**

Дырэктарка раённага Дома рамёстваў Алеся Аўчыннікава пра сваю працу гаворыць з захапленнем, дэманструючы выставачную залу. А паглядзець тут сапраўды ёсць на што! Ужо з парога акунаешся ў сапраўдную дзіўную скарбніцу: стагадовыя аздобленыя клапатлівай рукой майстра ручнікі, разнастайныя абярэгі і проста мілыя дробязі з саломы цешаць вока. Дрэва, лён, гліна — у стагоддзе полістэролу і пластыку яны нагадваюць нам аб непарыўнай сувязі людзей і прыроды.

— За 17 гадоў працы я ніколі не адчула глыбокага расчаравання, што абрала менавіта такі жыццёвы шлях, а што да наяўнасці натхнення, дык тут усё проста — стаміўся працаваць над адным вырабам — пачні другі, — кажа Алеся. — У нас заўсёды безліч планаў (хоць усяго толькі чатыры асноўныя супрацоўнікі) і столькі ж хваляванняў, як усё паспець. Але, трэба адзначыць, што ў раёне з'явілася шмат новых майстроў, і ў кожнага сваё захапленне — вышыўка, вязанне і шыццё, апрацоўка дрэва, аўтарская лялька…

Мызаўсёдырадызімісупрацоўнічаць, разам арганізуем выставы, прымаем удзел у разнастайных фестывалях, конкурсах, кірмашах. Ведаеце, і натхненне ў пэўнай ступені адсюль. Паглядзелі на вопыт калег з іншых рэгіёнаў, абмяняліся ідэямі, убачылі нешта новае і захацелі самі паспрабаваць. Гэта добры стымул для развіцця.

Цяпер у майстроў Дома рамёстваў узнікла новая мэта — адрадзіць бешанковіцкае ткацтва. Папулярызуюць традыцыйную бешанковіцкую свістульку, маюць намер заявіць пра сябе як ганчары (нават кола набылі), збіраюць фотаздымкі 30-50-х гадоў мінулага стагоддзя, каб па фатаграфіях узнавіць крой адзення, у прыватнасці, вясельны строй… Многае яшчэ ў перспектыве, а пакуль што актыўна рыхтуюцца да сустрэчы Масленіцы і святкавання Вялікадня, рэалізуюць праект «Зберажом для нашчадкаў», далучаюць да традыцый і мастацтва выхаванцаў дзіцячага сада №1 райцэнтра, знаёмяць іх з народнай культурай і відамі рамёстваў, праводзяць майстар-класы…

—Хто,калінемысамі,будзезахоўваць, адраджаць і папулярызаваць рамёствы, паказваючы іх гістарычную, псіхалагічную, эстэтычную каштоўнасць. Кожны выраб захоўвае цяпло рук майстра, у кожным — часцінка яго душы, а спрадвечная традыцыйная форма прадметаў беражэ памяць многіх пакаленняў продкаў. Сёння вырабы традыцыйных рамёстваў патрэбныя не столькі для побыту, колькі для душы. Сто гадоў таму любы селянін абавязаны быў умець плесці лапці, выразаць з дрэва лыжкі і міскі, валодаць сталярнай і цяслярнай справай. Без усяго гэтага не абыходзілася жыццё ў вёсцы. Цяпер, вядома, зусім не так, але патрэба ў прыгажосці застаецца заўсёды. Каму ж не хочацца ўпрыгожыць сваё жыллё ці насіць арыгінальную стыльную вопратку, прычым каб гэта яшчэ мела б і нейкі сэнс?

Этнічныя матывы ў афармленні інтэр'еру, афарбоўцы тканін — адны з самых папулярных, таму што адлюстроўваюць культуру. Дзякуючы падобным рэчам мы, не ўсведамляючы гэта, адчуваем сябе спакайней. Так што народныя вырабы — гэта не проста сувеніры, а напамін нам пра сталасць і шматвяковыя традыцыі, — разважае суразмоўца. — Хочацца сказаць вялікі дзякуй нашым незаменным памочнікам, сярод якіх Станіслаў Леаненка, Андрэй Трубецкі, Аляксандр Мачульскі, Алег Усаў і іншыя землякі-краязнаўцы і проста неабыякавыя людзі, аб'яднаныя энтузіязмам. Прадстаўнікі розных прафесій, але адзіныя ў сваёй вялікай любові да беларускай народнай спадчыны. Яны з радасцю дзеляцца цікавымі знаходкамі. Старажытныя ручнікі ці свістулька-бразготка сярэдзіны XVI стагоддзя, нечакана знойдзеная на беразе Дзвіны ў аг. Ула, несумненна, маюць неверагодную каштоўнасць.

…Гаварыць бы і гаварыць з Алесяй, словы яе кранаюць за сэрца. Міжволі падумала, наколькі гэта ўсё ж такі захоплены чалавек. Радасна, калі праца прыносіць задавальненне. Шчыра кажучы, развітвацца вельмі не хацелася. Разглядаць вырабы, перабіраць іх можна гадзінамі. Няйначай, як ад той прыгажосці і цеплыні, што ўнесена ў стварэнне, душа ўзрадавалася. За беларускую культуру, за тое, што ёсць сярод нас людзі, апантаныя любоўю да беларускасці. Менавіта такія захоўваюць мінулае і ствараюць будучыню.

**Марыя Санько**
**"Зара"**

## *НАСУПЕРАК ЗЯМНОМУ ПРЫЦЯЖЭНЬНЮ*

*Зьлятае сон кудысьці,*
*як прыходзіць сакавік*
*і абуджае коцікі на вербах.*
*І смутак прачынаецца*
*ў бярозавай крыві,*
*і сонечны настрой жыцця*
*паўзверх б'е.*

*Здранцьвеньне памірае,*
*адступіў зімовы жах,*
*а дыхаць ад блакіту*
*ўсё цяжэй мне -*
*бо мкнецца ў паднябесьсе*
*анямелая душа*
*насуперак*
*зямному прыцяжэньню.*

*Нязнанымі шляхамі*
*паўз страшныя муры,*
*дзе непрабудна сьпіць*
*наш дух крывіцкі,*
*мы ходзім шмат стагоддзяў,*
*а душы не ўзбурыць*
*бяз сонечных сьвітанкаў*
*сакавіцкіх.*

*Калі ў імгненьне вока*
*перакуліцца ўвесь сьвет,*
*і вырвуцца на волю*
*летуценьні,*
*і зоры нам адчыняцца*
*ў нязвыклым хараcтве,*
*насуперак*
*зямному прыцяжэньню.*

*Вітаю Вас,*
*далёкія і блізкія сябры!*
*Усім вясна шле*
*шчырыя вітаньні.*
*Хай Ваша кроў у жылах*
*бушуе і гарыць,*
*як гэтае разбуджанае*
*раньне.*

*Няхай яно ня вечнае,*
*няхай мільгне, як цень -*
*пасьпеем даць сваё*
*ўсяму найменьне!*
*І хоць бракуе часу -*
*паспрабуем узьляцець,*
*насуперак*
*зямному прыцяжэньню!*

***Г.Станкевіч***

РЭФОРМА

# ЯКІЯ РАЁНЫ МОЖНА ЛІКВІДАВАЦЬ

**Многія пагаджаюцца ў тым, што адміністрацыйная рэформа Беларусі даўно наспела. На выбарах 2010 года некалькі кандыдатаў, напрыклад, Алесь Міхалевіч і Віталь Рымашэўскі, нават уздымалі гэтае пытанне.**

Пакуль улады не наважыліся на драбленне абласцей, але ўжо сёння можна было б адмовіцца ад некаторых раёнаў. На сёння ў Беларусі налічваецца 118 раёнаў. Якія адміністрацыйныя цэнтры можна скасаваць бліжэйшым часам, каб зменшыць колькасць чыноўнікаў, сэканоміць грошы і пачаць рухацца ў бок больш глабальнай рэформы.

Адразу скажам, што гаворка тут не пра самыя малыя па насельніцтве раёны. Напрыклад, цяжка будзе расфарміраваць Расонскі раён. Ад яго дастаткова далёка да іншых цэнтраў. Так што ўлічваць будзем не толькі гэтыя фактары.

Раённыя цэнтры размешчаныя ў алфавітным парадку.

**Бераставіцкі раён** (15 440 чалавек па стане на 2018 год)

Гэты раён быў утвораны ў 1940 годзе, адразу па далучэнні Заходняй Беларусі да БССР. Толькі тады ён меў назву Крынкаўскі (так, тыя самыя Крынкі, дзе жыў Сакрат Яновіч) і быў зусім не памежны. Аднак пасля вайны ладная частка раёна стала тэрыторыяй Польшчы. На сёння Бераставіцкі раён адзін з самых малых у краіне. За апошнія 23 гады яго насельніцтва скарацілася на чвэрць. Пры гэтым доўгі час дадзены рэгіён займаў вядучыя месцы ў краіне па ўраджайнасці. Адлегласць ад Вялікай Бераставіцы да Ваўкавыска складае 36 кіламетраў.

**Бешанковіцкі раён** (15 469)

Вузкі і прадаўгаваты раён ва ўсходняй частцы Віцебскай вобласці. З гэтай тэрыторыі родам канцлер ВКЛ Леў Сапега, а таксама міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў. Аднак на сёння Бешанковіцкі раён займае чацвёртае месца знізу па ўзроўні заробкаў у краіне. За гады кіравання Лукашэнкі насельніцтва тут таксама зменшылася на трацінy. Бешанковіцкі раён можна было б спакойна падзяліць між Шумілінскім, Сенненскім, Чашніцкім і Віцебскім.

**Дрыбінскі раён** (9661)

Ужо двойчы ў гісторыі ўлады ліквідоўвалі Дрыбінскі раён — у 1931-м і 1959-м. Аднак у 1989-м Дрыбін зноў стаў адміністрацыйным цэнтрам у сувязі з масавым пераездам у рэгіён жыхароў Краснапольскага раёна, які трапіў на забруджаныя радыяцыяй тэрыторыі. Насельніцтва раёна складае ўсяго 12 тысяч жыхароў. Гэты раён трапляе ў спіс тых рэгіёнаў, якія найхутчэй вымiраюць. Дрыбінскі раён можна было б падзяліць між Горацкім, Шклоўскім і Мсціслаўскім.

**Ельскі раён** (15 128)

Ці шмат вы чуеце навін з Ельскага раёна? Апошняе, што ўспамінаецца, як туды з Мінска вывезлі актывістак Femen. А калісьці Ельскам валодалі выхадцы з Францыі, шляхецкі род Спадаў. А сам населены пункт называўся Каралін. Толькі ў 1931-м годзе Каралін стаў Ельскам, а яшчэ праз сем гадоў атрымаў статус пасёлку гарадскога тыпу. Адметна, што ў 1960-я ад Ельскага раёна адлучыўся Нараўлянскі. Насельніцтва Ельскага раёна імкліва змяншаецца. Падзелены раён мог бы быць між Мазырскім, Лельчыцкім і Нараўлянскім.

**Жабінкаўскі раён** (24 329)

Ад Жабінкі да Брэста менш за 30 кіламетраў. Жабінкаўскі раён багаты вытворчасцю: там маецца цукровы завод, камбікормны, торфабрыкетны. Насельніцтва яго таксама не змяншаецца, але вялізная колькасць людзей праца ездзіць на працу ў Брэст. Чаму б раён і афіцыйна не замацаваць за абласным цэнтрам?

**Кармянскі раён** (13 213)

У Кармянскага раёна таксама няпростая гісторыя. Яго перадавалі, то да Рагачоўскага, то да Чачэрскага. Раён вельмі моцна пацярпеў ад наступстваў аварыі на ЧАЭС. Каб Карма засталася ў межах Гомельскай вобласці, то раён мог быць падзелены ўсё паміж тымі самымі Рагачоўскім і Чачэрскім раёнамі. Гэта другі самы бедны раён у краіне. Летась сярэдняя зарплата там складалі ўсяго 524 рублі.

**Карэліцкі раён** (19 691)

Першым адміністрацыйным цэнтрам гэтага раёна была вёсачка Валеўка, якая цяпер увогуле ўваходзіць у склад Навагрудскага раёна. У 1962-м Карэліцкі раён ужо ліквідоўвалі. Карэліцкі раён з'яўляецца аб'ектам цікаўнасці турыстаў з Беларусі і замежжа, бо тут знаходзіцца Мірскі замак. У выпадку рэформу альбо ў Нясвіжскім раёне, альбо ў Навагрудскім паболее гістарычных славутасцяў.

**Кіраўскі раён** (19 106)

Гэты раён утварылі, узяўшы пакрыху ў Бабруйскага, Клічаўскага, Быхаўскага і Рагачоўскага. Назва раённага цэнтра абсалютна штучная, яго назвалі ў гонар першага сакратара Ленінградскага абкама Сяргея Кірава. Раней населены пункт на гэтым месцы называўся Старцы. У Кіраўскім раёне быў некалі легендарны калгас «Рассвет», якім кіраваў Васіль Старавойтаў. На сёння асаблівага сэнсу ў існаванні асобнай адміністрацыйнай адзінкі з цэнтрам у Кіраўску няма.

**Круглянскі раён** (13 827)

І ў дачыненні да Круглянскага раёна ліквідацыя была б зусім не першай: раён скасоўвалі ўжо двойчы, але потым аднаўлялі. У Круглянскім раёне ёсць помнік рускаму генералу, рэдактару газеты «Рускі мір» Міхаілу Чарняеву, які жыў тут напрыканцы XIX стагоддзя. Раён невялікі, стратэгічнага значэння не мае, і можа быць лёгка падзелены між Шклоўскім, Крупскім і Талачынскім раёнамі.

**Лёзненскі раён** (15 734)

Калісьці тут быў зроблены замах на першага прэзідэнта Беларусі, тады, праўда, яшчэ кандыдата ў прэзідэнты. А на сёння Лёзненскі раён — адзін з самых імкліва вымiраючых у краіне.

Можа быць падзелены між Віцебскім, Аршанскім і Дубровенскім раёнамі.

**Лоеўскі раён** (11 799)

Займае пятае месца сярод самых бедных раёнаў краіны. Хаця тут праходзіць мяжа з Украінай, працякае Дняпро. Лоеў не стаў прыцягальным цэнтрам для жыхарства. Раён можа быць падзелены між Рэчыцкім і Брагінскім.

**Шаркаўшчынскі раён** (14 781)

Вядомы найперш тым, што афіцыйна з'яўляецца самым бедным раёнам краіны. Гэта адзіны рэгіён, дзе заробкі летась былі меншымі за 500 рублёў. У Шаркаўшчынскім раёне ёсць фантастычна прыгожы заказнік «Ельня», але шмат на турызме зарабляць там яшчэ не навучыліся. Прадпрыемствы раёна ж знаходзяцца не ў самым добрым стане. Падзяліць раён можна было б між Браславам, Глыбокім і Паставамі.

**Зміцер Панкавец**
**Наша Ніва**

З СУДОВАЙ ЗАЛЫ

# БЕГ З СЯКЕРАЙ І КРЫЧАЎ…

**Як паведаміла пракуратура Бешанковіцкага раёна, у студзені 2019 года да крымінальнай адказнасці за пагрозу забойства быў прыцягнуты 68-гадовы жыхар Бешанковіцкага раёна, які на фоне рэўнасці перыядычна ладзіў скандалы сваёй сужыцельцы і іншым жыхарам вёскі.**

Аднойчы гэты пенсіянер убачыў суседа, які праязджаў паўз ягоны дом на веласіпедзе, узяў сякеру і пабег за ім. Пры гэтым ён абвінавачваў суседа ў сувязі з сужыцелькай і крычаў аб тым, што заб'е яго. Сусед пагрозу ўспрыняў рэальна і, абараняючыся роварам, змог уцячы дадому, адкуль выклікаў міліцыю.

Пры разглядзе крымінальнай справы ў судовым пасяджэнні пенсіянер не раскаяўся, і віну сваю не прызнаў. Ён сцвярджаў, што падстаў асцерагацца ажыццяўлення пагрозы ў суседа не было. Ён хацеў проста суседа напалохаць.

Крымінальная адказнасць за пагрозу забойствам надыходзіць у тым выпадку, калі маюцца дастатковыя падставы баяцца яе ажыццяўлення. Не мае значэння, ці мела намер дадзеная асоба сапраўды выканаць сваю пагрозу.

Суд пагадзіўся з меркаваннем дзяржаўнага абвінаваўцы і прызнаў пенсіянера вінаватым у злачынстве. Прысуд уступіў у законную сілу.

**М.Васільеў**
**па матэрыялах**
**раённай пракуратуры**

# АТРЫМАЎ 3,5 ГАДЫ НЯВОЛІ

**Памятаеце сутыкненне аўтамабіляў на сенненскім скрыжаванні каля Бешанковічаў у кастрычніку 2018 года? У студзені 2019 года быў прыцягнуты да крымінальнай адказнасці 44-гадовы жыхар Полацкага раёна, удзельнік гэтага ДТЗ.**

23-га кастрычніка 2018 года, кіруючы аўтамабілем ВАЗ-2101, на скрыжаванні аўтадарог М3 «Мінск-Віцебск» і Р113 «Сянно -Бешанковічы-Вушачы» ён здзейсніў сутыкненне з аўтамабілем «Газэль».

У выніку гэтага сутыкнення аднаму з пасажыраў аўтамабіля ВАЗ-2101 былі прычынены цяжкія цялесныя пашкоджанні.

На судовым пасяджэнні было ўстаноўлена, што кіроўца ВАЗ-2101 працаваў у адной з сельскагаспадарчых арганізацый Полацкага раёна. Падчас абедзеннага перапынку ён з двума іншымі работнікамі дадзенай арганізацыі распіваў спіртныя напоі, пасля чаго сябры вырашылі з'ездзіць да сваякоў кіроўцы ў Талачынскі раён.

Падсудны ніколі не меў вадзіцельскага пасведчання, але сеў за руль. Два яго сябры селі на пасажырскія сядзенні, працягнуўшы ў аўтамабілі распіваць спіртныя напоі. Рухаючыся па другараднай дарозе з Бешанковічаў ў напрамку Сянна кіроўца ВАЗ-2101 не зніжаючы хуткасці выехаў на галоўную дарогу, дзе сутыкнуўся з аўтамабілем «Газэль».

Адзін з пасажыраў без прытомнасці быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы, дзе было ўстаноўлена, што яму прычынены цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Кіроўца ВАЗ-2101 прыцягнуты да крымінальнай адказнасці. Яму прызначана пакаранне ў выглядзе 3 гадоў 6 месяцаў пазбаўлення волі з пазбаўленнем права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі тэрмінам на 5 гадоў. Прысуд уступіў у законную сілу.

**А.Тутэйшы**
**па матэрыялах**
**раённай пракуратуры**

ДАПАМОГА

# ДАПАМАГІЦЕ ПРЫТУЛКУ…

**Вы можаце дапамагчы Віцебскаму прытулку для бяздомных жывёл, не выязджаючы за межы Бешанковіцкага раёна. У Бешанковічах, на другім паверсе дома побыту ў краме "Кантакт", адкрыты пункт збору дапамогі прытулку.**

Вы можаце прыносіць непатрэбную адзежку на падсцілу для клетак і вальераў, цалкам любыя анучы, акрамя пер'евых падушак.

Таксама прытулак будзе ўдзячны за прадукты: макароны, крупы, рыс, грэчка і проса, вільготны корм для катоў і сабак, амуніцыю - нашыйнікі і ланцужкі.

Сухі корм для катоў не патрэбны, яго шмат.

Сухі корм для сабак просім толькі добры, каб можна было змешваць з танным, які таксама ёсць у дастатковай колькасці.

Крама "Кантакт" размешчаны па адрасе: Віцебская вобл., г.п. Бешанковічы, вул. Урыцкага, 13.

Падзяліцеся інфармацыяй са сваім знаёмымі.

**Рэдакцыя сайта**

КАРЫСНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

# ЗМЯНІЛІСЯ НУМАРЫ ТЭЛЕФОНАЎ

**У бешанковіцкай цэнтральнай раённай бальніцы змяніліся нумары тэлефонаў.**

Зараз, каб выклікаць хуткую дапамогу, трэба набраць 6-51-03.

Датэлефанавацца ў прыёмны пакой можна па нумары 6-52-01.

Заказаць талон да доктара ў рэгістратуры можна па нумары 6-50-57, у дзіцячай кансультацыі 6-50-61.

Звязацца з жаночай кансультацыяй можна па нумарах 6-51-28 і 6-50-69.

Кансультацыю лекараў-стаматолагаў вы атрымаеце па нумары 6-51-73, у лабараторыі на званкі адкажуць па нумары 6-51-06.

Датэлефанавацца ў прыёмную галоўнага доктара можна па нумары 6-51-57.

Справіцца пра здароўе пацыентаў у дзіцячым аддзяленні можна па нумары 6-51-42, у інфекцыйным - 6-51-18, у хірургіі - 6-52-60, у тэрапіі - 6-51-71 (першы пост) і 6-50 -99 (другі пост).

**Газета "Зара"**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# ВЯЛІКАЯ РАЗМОВА ПРА ЛЕТАШНІ СНЕГ

**Аснову сучаснага глабальнага канфлікту «складае барацьба сучаснага і несучаснага светаў». Гэту думку аўтар «Азбукі паліталогіі» запазычыў з кнігі расійскага эканаміста Уладзіслава Іназемцава «Несучасная краіна». Кніга прысвечаная Расіі. Аднак гэта, калі пагадзіцца з адзіным палітыкам (АП), «наша Расія».**




Можна, зразумела, і не згаджацца, аднак роднаснасць дзвюх мадэляў адмаўляць складана. І першае, што кідаецца ў вочы,— гэта дэфіцыт унутраных крыніц развіцця, што і пацвердзіла «Вялікая размова», якая адбылася 1 сакавіка. Сем з паловай гадзін не хапіла АП для таго, каб патлумачыць, за кошт чаго пад канец наступнай пяцігодкі ВУП Беларусі складзе $ 100 мільярдаў. І гэта нягледзячы на наўпростае пытанне, якое паступіла ад аднаго з удзельнікаў «размовы».

На працягу стагоддзяў «славянская цывілізацыя», пад якой АП разумее Расію, Беларусь і Украіну, развівалася за кошт знешніх запазычанняў, што не замінала (якім бы дзіўным гэта ні падавалася) фарміраванню пачуцця выключнасці, не перашкодзіла памкненню не столькі даць свету нешта новае, колькі не дапусціць страты ранейшых здабыткаў. Адсюль культ стабільнасці, пакланенне якому і апынулася ў цэнтры «Вялікай размовы».

**Не вёў агітацыю і не збіраецца**

«Нам трэба будзе даць аб'ектыўную ацэнку адносна самых абмяркоўваемых тэмаў, якія асабліва хвалююць людзей і грамадства… А па асобных пытаннях нам трэба кампенсаваць недахоп дакладнай інфармацыі, паток якой штодня абрушваецца на кожнага з нас», — такімі словамі акрэсліў АП мэту «Вялікай размовы».

Мэта агульная, але асобна для СМІ, «якія пазіцыянуюць сябе як незалежныя», гаспадар мерапрыемства нагадаў пра існаванне мяжы дапушчальнага, за «якой парушаецца раўнавага ў грамадстве». Што ж, своечасовы напамін. Да аўтара «Азбукі паліталогіі» гэта мае непасрэднае дачыненне.

Не абышлося і без панегірыкаў на адрас «сённяшняга чытача». АП ахарактарызаваў яго як адукаванага, які ўмее аналізаваць, разбірацца «ў тонкасцях журналісцкіх маніпуляцый» і авалодаў мастацтвам «хутка счытваць, чые ці якія інтарэсы стаяць за анонсам праграмы або загалоўкам навіны».

Ці існуе такі чытач у прыродзе — пытанне спрэчнае. Але калі існуе, дык незразумела, чаму пры наяўнасці чытачоў, здольных адрозніваць праўду ад хлусні па адных толькі загалоўках, так званыя «фэйкавыя навіны», нават пасля іх выкрыцця, здольныя «бударажыць людзей»?

Зразумела, не абышлося без развагаў пра маючыя адбыцца парламенцкія і прэзідэнцкія выбары.

Унесучасных краінах — а такіх у свеце большасць — выбары не маюць на мэце рэальную канкурэнцыю кандыдатаў, якія прапануюць выбаршчыкам розныя шляхі развіцця краіны. Прыклад, як правіла, падаюць уладныя кандыдаты. Таму не варта здзіўляцца заяве АП пра тое, што ён у мінулую перадвыбарчую кампанію не вёў агітацыю, дый падчас маючай адбыцца таксама не збіраецца тое рабіць.

Нацыянальная адметнасць выбараў у Беларусі такая, што забяспечваецца высокая яўка выбаршчыкаў і падтрымка канструктыўных кандыдатаў і без адміністрацыйнай мабілізацыі электарату. Навошта ж дарма марнаваць народныя грошы на агітацыю? Выбаршчыкі, якія па анонсах праграм кандыдатаў адназначна разумеюць, чые інтарэсы тыя на самай справе прэзентуюць, у агітацыі не маюць патрэбы.

Строга кажучы, само паняцце «выбары» ў наш несучасны свет прыцягнутае за вушы са свету сучаснага. У нас — не выбары, а галасаванне. «Таму што выбары, — тлумачыць расійскі палітолаг і журналіст Яўгенія Альбац, — гэта не толькі момант, калі вы апускаеце свой бюлетэнь, выбары — гэта на самай справе працэс. Гэта перадвыбарчая кампанія, падчас якой прадстаўнікі розных палітычных партый маюць магчымасць прапанаваць выбаршчыкам розныя кошыкі сваіх прапаноў. Свае праграмы».

І ёсць адна нацыянальная асаблівасць, пра якую ўвесь час нагадвае кіраўнік дзяржавы: маючыя адбыцца палітычныя падзеі ў нас традыцыйна стануць экзаменамі — і не толькі для АП, але і для ўсіх узроўняў вертыкалі.

Выбары, такім чынам, плаўна трансфармуюцца ў цырыманіял акламацыі (ад лацінскага слова «acclamatio» — «крык», «усклік», «воклiч»). Так у старажытным Рыме гарадское насельніцтва воклічамі выказвала адабрэнне або незадавальненне наконт пастановаў уладаў, якія зачытваліся ў цырку. Можна прыгадаць і казакоў з іх ухвальнымі воклічамі «люба!» на Вайсковым коле.

**Адгадаць з трох разоў**

Несучасныя краіны любяць укідваць у інфармацыйную прастору пытанні, на якія не маюць на ўвазе адмоўнага адказу, а калі і маюць, дык выключна з боку «нацыяналістаў», «пятай калоны», «ворагаў народа» і да т.п. Гэтым, у прыватнасці, тлумачыцца перакос знешнепалітычных пытанняў над эканамічнымі.

Вернемся ў Нацыянальны выставачны цэнтр «Белэкспа», дзе праходзіла «Вялікая размова». «Вы ўсе ведаеце, што знешняя палітыка Беларусі шматвектарная і праводзіцца выключна ў інтарэсах забеспячэння бяспекі і захавання міру на нашай планеце. Мы супраць любых праяваў агрэсіі, як ваеннай, так і на злобу дня — інфармацыйнай».

Хто і што тут можа запярэчыць? Гэта ж не публічна дыскутаваць наконт эфектыўнасці палітыкі ў галіне падаткаабкладання або фарміравання расходнай часткі бюджэту, як гэта робіцца ў сучасных краінах. Але ідзем далей.

«Па перыметры нашай мяжы ўзнікаюць новыя кропкі напружанасці. Дагаворы, якія забяспечвалі баланс ваенных сіл на планеце, разыходзяцца па швах. У разгары новая гонка ўзбраенняў», — палохае журналістаў і экспертаў АП. А каб быць пераканаўчым, ён пераходзіць да тэмы падвойных стандартаў краін NATO. Польшча, паводле яго словаў, мае намер выдаткаваць

***(працяг на стар. 4)***

ЗАРОБКІ

# КОГДА БУДЕМ ЗАРАБАТЫВАТЬ «ДОСТОЙНУЮ» ЗАРПЛАТУ?

**По производительности труда Беларусь в пять раз отстает от стран Евросоюза, отмечают авторы Концепции национальной стратегии устойчивого развития Республики Беларусь до 2035 года.**

Руководитель Аналитического центра «Стратегия» Леонид Заико не согласен, что производительность труда в стране настолько ниже, чем в Евросоюзе. Он говорит, что этот показатель часто отождествляют со стоимостными величинами цен на продукцию и ее количеством, которое создает один работник. Но это не производительность труда, а выработка.

— В советские времена расчеты производительность труда инженеров, котроллеров, операторов крупных предприятий оценивали как 0,75 от производительности условно американского работника. Для вспомогательных работ это было 0,25. То есть если смотреть на структуру рабочей силы, то мы отставали в четыре раза. А если сейчас пишут, что у нас 20% от европейской, то я хочу спросить, чем вы это меряли? – говорит Леонид Заико.

Как правило, чем выше производительность труда человека, чем он больше создает товаров и услуг за единицу времени, тем выше у него зарплата.

Для устойчивого экономического роста, по подсчетам экспертов, производительность труда должна увеличиваться хотя бы на 5% в год.

Традиционно в Беларуси называют проблемой отрыв роста заработных плат от производительности труда. Есть предприятия, где из-за излишней занятости зарплаты сильно завышены по сравнению с вкладом работников в результаты производства.

Но ситуация неоднозначна, а порой прямо противоположна. За общими показателями производительности труда может скрываться иная ситуация в разрезе отдельных предприятий и отраслей экономики.

– Есть одно конкретное крупное предприятие, которое занимает неплохие позиции внутри страны и на рынках третьих государств, имеет хорошие показатели прибыли по данным финансовой отчетности, но зарплаты у рабочих невысокие. И за последние пять лет в долларовом эквиваленте росли заметно меньше по сравнению с динамикой роста средней зарплаты по стране. Причем, если замерить производительность труда на аналогичном предприятии в стране ЕС, не исключено, что она может совпадать, – приводит пример аналитик исследовательской группы Businessforecast.by Александр Муха.

Чтобы подстегнуть рост производительности труда, руководству страны и принимающим решения предстоит работать над целым комплексом задач, считает аналитик.

— Это и экономические реформы, структурные рыночные реформы, направленные на повышение конкурентоспособности и качественные изменения структуры национальной экономики, и положительные социальные изменения в белорусском обществе, — объясняет Александр Муха.

То есть это вопрос структурной перестройки национальной экономики. Повысить производительность труда можно за счет более активного привлечения иностранных инвестиций, раскрепощения деловой инициативы внутри страны. Это сокращение уровня коррупции и экономических преступлений, уменьшение социального расслоения в обществе, изменение подходов к формированию зарплат, выработка актуальных мотиваций и стимулов к работе, создание более благоприятных условий для ведения бизнеса.

— Здесь же углубление региональной экономической интеграции в формате Евразийского экономического союза, а также долгожданное присоединение Беларуси ко Всемирной торговой организации, — добавляет Александр Муха.

Если двигаться по всем этим фронтам, то можно ожидать более оптимистичных экономических показателей. Ключевым из них экономист называет среднедушевой валовой внутренний продукт по паритету покупательной способности.

— Нужно расти немного быстрей. Для этого важно поощрять инвесторов и бизнес в создании проектов, даже с нуля, где будут рабочие места с более высокой добавленной стоимостью – соответственно более высокой производительностью труда, более высокой заработной платой, — говорит Александр Муха.

Пока же более низкий уровень производительности труда в Беларуси по сравнению с развитыми государствами приводит к более низкому уровню социального и экономического развития. Это сказывается на многих возможностях белорусов, которые зависят от уровня доходов.

— Очевидно, что при более высоких доходах, которые возможны при более высокой производительности труда, белорусы могут обеспечить себе более качественную и достойную жизнь, — отмечает аналитик исследовательской группы Businessforecast.by.

Более того, открывшиеся возможности позволят многим белорусам преодолеть ловушку бедности.

**Наталья Колесниченко**
**Завтра твоей страны**

ПАЛІТАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

на абарону каля $ 50 мільярдаў. У той жа час на любы крок у адказ Беларусі і Расіі ў напрамку ўмацавання ўласнай ваеннай моцы ў Еўропе пачынаюць «гвалтам крычаць».

АП заклікаў незалежныя СМІ быць аб'ектыўнымі і ставіцца да падобных фактах з пункту гледжання нейкага аднаго крытэру. Своечасовы заклік. Грэх ім не скарыстацца. На працягу 5 гадоў аўтар «Азбукі паліталогіі» быў удзельнікам канферэнцыі «Рубікон». Канферэнцыя праходзіла ў Таліне ў будынку парламента. З уступным словам да ўдзельнікаў канферэнцыі, як правіла, звярталася міністр замежных спраў Эстоніі. Натуральна, яна казала пра міралюбную палітыку краіны і рэгулярна скардзілася на тое, што, у адпаведнасці з нормамі NATO, Эстонія вымушаная марнаваць на абарону 2% дзяржаўнага бюджэту.

Я не эксперт па Эстоніі, але выключна знешне аб'ектыўнасць слоў міністра пацвярджала адсутнасць людзей у ваеннай форме на вуліцах Таліна. Аднак у адзін з маіх прыездаў гатэль, у якім размяшчаліся ўдзельнікі канферэнцыі, быў перапоўнены афіцэрамі NATO (пераважалі немцы). Прапаную чытачам з трох разоў здагадацца, у які год здарылася гэта неардынарная падзея.

Той, хто назаве 2014-ы, не памыліцца. З таго ж года калоны ваеннай тэхнікі сталі часткай інтэр'еру эстонскіх дарог. Але што тут прычына, а што следства? Ці не час АП разабрацца з адказам на гэтае пытанне і назваць рэчы сваімі імёнамі, замест рэгулярных развагаў на тэму адсутнасці ў Еўропе захаплення з нагоды «абранага Беларуссю курсу на пабудову сацыяльна арыентаванай дзяржавы, падпарадкаванай інтарэсам чалавека».

**Разбой на месцах**

У чым АП мае рацыю, дык гэта ва ўзмацненні расколу ў свеце. Калі ў 1800 годзе, калі верыць англійскаму статыстыку Ангусу Мэдзісану, паводле ВУП на душу насельніцтва перадавыя краіны апярэджвалі адсталыя ў 4 разы, то ў цяперашні час — у 100 разоў, і разрыў працягвае павялічвацца.

ЗноўпрацытуюІназемцава:«Сучасныя краіныстановяццаўсёбольшсучаснымі (у тым ліку выкарыстоўваючы рэсурсы і грамадзян астатняга свету), а несучасныя — усё больш архаічнымі. Мы прысутнічаем пры нараджэнні свайго роду «расколатай цывілізацыі», дзе імкліва фармуюцца полюсы багацця і беднасці, поспехаў і няўдач. У такіх умовах замацаванне краіны сярод адкрыта несучасных, якое ажыццяўляецца ў інтарэсах вузкага кола цалкам глабалізаванай эліты, уяўляе сабой прыклад маштабнай нацыянальнай здрады».

У беларускай несучаснасці ёсць свае бенефіцыяры. Мабыць, самы яркі момант «Вялікай размовы» — аповед АП пра прынцыпы размеркавання зямлі ў Беларусі.

Даўно ўжо ні для каго не з'яўляецца таямніцай, што без рашэння АП ні кавалка зямлі ці лясных угоддзяў у нас не атрымаць. Чаму? А таму, што на месцах «разбой пачынаецца». «Вось так і з усёй уласнасцю».

Але прабачце, а хто пачынае разбой на месцах: нацыяналісты, прадстаўнікі так званай «пятай калоны» або прызначаныя асабіста АП чальцы ўладнай «вертыкалі» ў асобе кіраўнікоў раённых і абласных адміністрацый?

Адказ відавочны, бо нічога больш несучаснага, чым уладная «вертыкаль» у пытаннях кіравання ў наш час няма

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ГЭТА ТАМ

# ФИНСКИЕ УРОКИ ДЛЯ БЕЛОРУССКИХ ВЛАСТЕЙ

**Дождемся ли мы когда-нибудь добровольных отставок правительства?**

Премьер-министр Финляндии Юха Сипиля подал прошение об отставке правительства. Причиной отставки послужила неудачная реформа здравоохранения и соцобеспечения. Кабмин Финляндии не смог согласовать позиции по ней, сообщает Финляндское информационное агентство.

Беларусь — не Финляндия. У нас, говорят, свое понятие спокойной и нормальной жизни. И все же сравнение просится. Интересно, сколько раз в нашей стране сменилось бы правительство, если бы власти страны начали придерживаться финских стандартов?

А поводов для прошения об отставке у нас хоть отбавляй. Сколько раз реформировалась система образования? И каков итог этих бесконечных реформ?

А белорусская система здравоохранения, сотрясаемая коррупционными скандалами?

А модернизация деревообработки и цементных заводов, закончившаяся пшиком и огромными убытками?

Примеры можно приводить долго, но факт остается фактом — пример Финляндии для нас — словно привет из параллельной реальности. Власти вроде бы начали открыто говорить о провалах в экономике. Но брать на себя ответственность за это они явно не торопятся.

**Кирилл Иванов**
**«Солидарность»**

УЛАДА

# ДЫКТАТУРА — БРЭНД БЕЛАРУСІ

**Прэс-сакратарка кіраўніка Беларусі ўзялася за апраўданьне беларускай дыктатуры.**

**Знойдзены брэнд Беларусі**

Шмат гадоў беларускае грамадзтва шукае нацыянальную ідэю. Дзеля гэтага працуюць цэлыя дзяржаўныя інстытуты, правялі шмат ток-шоў на БТ. Некалькі канфэрэнцыяў было прысьвечана пошуку брэнду Беларусі. За турыстычны брэнд Менску адной замежнай фірме нават заплацілі нямалыя грошы. Зь Вялікай Брытаніі выпісвалі цэлага лорда Бэла, каб прапіярыць лукашэнкаўскую Беларусь у Эўропе. І ўсё марна.

І вось эўрыка. Прэс-сакратарка Аляксандра Лукашэнкі Натальля Эйсмант адным скокам вырашыла праблему, над якой мучыліся сотні інтэлектуалаў. Яна проста пасароміла іх. І цяпер краіна можа спаць спакойна. Сп-ня Эйсмант вызваліла беларусаў ад невыноснага маральнага цяжару. Сякера аказалася пад лаўкай, а раяль стаяў у кустах. Бо, як вядома, усё геніяльнае — простае.

Вось што значыць быць у адным інтэлектуальным полі з чалавекам, пра «маштаб асобы, маштаб мысьлі» якога Натальля выказваецца з вялікім піетэтам і прыдыханьнем. Бо свой магічны арэол ён распаўсюджвае на сваё атачэньне.

«Мне здаецца, мы ўжо так часта вымаўляем гэтае слова, што дыктатура — гэта ўжо наш брэнд», — сказала сп-ня Эйсмант у эфіры АНТ. Вось яна — мудрасьць вякоў.

Інтэрвію прэс-сакратаркі ў перадачы «Маркаў. Нічога асабістага» цікавае менавіта яе шчырасьцю. «O sancta simplicitas» ( «О, сьвятая прастата!») — сказаў Ян Гус на вогнішчы, калі ўбачыў, што нейкая бабулька у прастадушнай старанасьці кінула ў агонь гальлё. Сьвятая прастата Эйсмант таго самага кшталту.

**Магія дыктатуры**

Ёсьць такая зьява, як «магія дыктатара». У тэлесэрыяле «Гульні тронаў» запомнілася такая фраза: «Улада — гэта цень чалавека на сьцяне. Чалавек можа быць маленькі, а цень вельмі вялікі». Гэта якраз беларускі выпадак.

Працуючы пэўны час з Лукашэнкам, Эйсмант пачынае пераймаць стыль мысьленьня, паводзінаў, нават лексыкон шэфа. Вось прыклад. Сярод іншага Маркаў запытаўся ў Натальлі, паводле якога прынцыпу адбіраліся журналісты, эксперты на «Вялікую размову з прэзыдэнтам», а таксама якім чынам там задаваліся пытаньні. «Калі б я адбірала пытаньні і тэмы, мне прэзыдэнт проста галаву адкруціў бы», — прастадушна адказала Эйсмант.

Шмат разоў мы чулі ад Лукашэнкі падобную тэрміналёгію: «па мордзе даць», «зьвернем галаву», «ногі паадкручваем», «рукі паадсякаем» і інш. І вось цяпер з вуснаў прыгожай, інтэлігентнай жанчыны гучыць жаргон, слэнг крымінальных разборак. Гэта адбываецца падсьвядома, на аўтамаце. З кім павядзесься...

**Прыклады маштабу асобы Лукашэнкі**

Яшчэ адзін цікавы сюжэт інтэрвію. Эйсмант, апавядаючы пра маштаб асобы Лукашэнкі, кажа: «Наблізіцца да гэтага ўзроўню генэраваньня ідэяў вельмі складана і нават, напэўна, немагчыма».

З гэтай нагоды мой калега Віталь Цыганкоў піша у фэйсбуку: «На гэтым момантце я нават унутрана напружыўся, чакаючы, пра што ж яна зараз раскажа. Можа, пра выпрацоўку стратэгіі разьвіцьця краіны, ці стварэньне нацыянальнай ідэі, ці там хаця б плян пашырэньня экспарту. І тут Эйсмант раскрывае „маштаб ідэяў" — аказваецца, размова ідзе пра навагодні баль і пра хакейную сэрыю. Маштаб зашкальвае, лішне казаць».

Сапраўды, прыклады, закліканыя паказаць маштаб асобы Лукашэнкі, проста забойныя. Сп-ня Эйсмант выдае за нестандартнасьць, крэатыўнасьць мысьленьня элементарны панскі капрыз. Маўляў, хачу паглядзець, як Качанава будзе танчыць з Румасам (Лукашэнка сам пра гэта расказаў 1 сакавіка). І ўся дзяржаўная машына закруцілася, каб задаволіць нораў валадара.

Ці яшчэ адно дзіцячае жаданьне арганізаваць сэрыю хакейных гульняў паміж зборнай экстралігі і камандай «Дынама-Мінск». Тры гульні дзеля аднаго гледача. Тое, што студэнтаў і школьнікаў нагналі на арэну, — ня лічыцца. І хакеісты «Дынама-Мінск», траўмаваныя, у разабраным стане пасьля заканчэньня сэзону, нібы артысты прыгоннага тэатру, былі вымушаны гуляць.

**Анамалія прымаецца за норму**

Але насамрэч праблема глыбейшая, чым абсурднасьць зроку прэс-сакратаркі дыктатара (цяпер гэты тэрмін легалізаваны). Рэч у тым, што вырасла цэлае пакаленьне людзей, якія, акрамя дыктатуры Лукашэнкі, больш нічога ня бачылі, ня чулі, ня ведаюць. А Натальля Эйсмант — толькі прыгожае люстэрка, больш-менш адэкватнае адлюстраваньне гэтага фундамэнтальнага працэсу. На гэтым і палягае беларуская драма, што анамалія пачынае прымацца за норму.

Гэта ня мудрасьць вядомага філёзафа Валянціна Акудовіча, які разважае пра вялікі прагрэс з той нагоды, што беларусы ўпершыню за шмат вякоў займелі свайго ўласнага дыктатара. Гэта хутчэй сьвядомасьць простага савецкага чалавека, які сапраўды лічыў нязграбнага вусатага людажэра, што дрэнна гаварыў па-расейску, «правадыром усіх народаў», а данос на суседа разглядаў як грамадзянскі абавязак.

«Мы бачым, што адбываецца навокал, — хаос, часам беспарадак. Я, можа, нейкую парадаксальную рэч скажу, нечаканую, але часам мне здаецца, што ня сёньня дык заўтра, але пасьлязаўтра дакладна ў сьвеце можа паўстаць запыт на дыктатуру. Бо за дыктатурай у нашым сёньняшнім разуменьні ў першую чаргу мы бачым, на мой погляд, парадак, дысцыпліну і абсалютна нармальнае і спакойнае жыцьцё», — лічыць прэс-сакратар.

Паўгалодны савецкі калгасьнік, атрымліваючы за працу пустыя «працадні», таксама лічыў, што жыве ў самай шчасьлівай краіне сьвету, што ўвесь сьвет яму зайздросьціць і марыць ісьці тым жа шляхам. Тут мы назіраем «стакгольмскі сындром» вялікай часткі беларускага грамадзтва. Гэта калі ахвяры гвалту пачынаюць адчуваць сымпатыю да гвалтаўнікоў. Шмат беларусаў сапраўды лічаць, што выбары, такія, напрыклад, як цяперашнія ва Украіне, — гэта «вакханалія», а тое, што адбываецца ў Беларусі пад выглядам выбараў, — гэта якраз норма, бо парадак і спакой. У гэтым сэнсе шчыраваньні Натальлі Эйсмант ёсьць цікавым дакумэнтам эпохі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.03.2019 у 15.40**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.